**ЗВЯЗДА**

*Газета выдаецца са жніўня 1917 года*

18 снежня 1991 г. СЕРАДА
№ 241 (21769)
Цана 20 кап.

## АПОШНЯЯ ІНФАРМАЦЫЯ АД 18 ДА 18 СУТАК

### ВОСЬ ДЫК ПАДАРУНАК!

ГРОДНА. (**А. Дук**). Як не пазайздросціць працаўнікам аб'яднання «Хваля». Па рашэнню кіраўніцтва ўсе працуючыя на прадпрыемстве змогуць у выглядзе заахвочвання набыць па сімвалічнай цане, усяго за 100 рублёў, прадукцыю аб'яднання — аўтамагнітолу «Гродна», рыначны кошт якой 4.000.

### «Бярэзіна» з Бабруйска

Хутка ў нашых кватэрах і рабочых кабінетах паявяцца мініяцюрныя тэлефоны-трубкі «Бярэзіна» з кнопачным наборам — першую партыю іх выпусціў завод вагавымяральных прыбораў у Бабруйску.

Навінка вельмі модная цяпер, ды і зручная. Але яе аўтары «гналіся» не толькі за дызайнам. У новым апараце ёсць дадатковы ўзмацняльнік, які забяспечвае добрую чутнасць, незалежна ад ваганняў у сетцы і іншых перашкод.

Распрацавалі тэлефон пермскія канструктары, а тэхналогію яго вытворчасці — бабруйчане. Ужо ў гэтым годзе «Бярэзіна» пачне паступаць прадпрыемствам сувязі і ў магазіны. У наступным годзе плануецца выпусціць 20 тысяч такіх апаратаў.

### Не па адрасу

ШЧУЧЫН. (**В. Юрэвіч**). У той час, як у горадзе пачаўся ажыятаж па выкупу кватэр, у сельскай мясцовасці пачалі купляць тэхніку. На сённяшні дзень па раёну прададзена 139 трактараў, у асноўным маламагутных—Т-40 і Т-25, якімі можна апрацоўваць прысядзібныя ўчасткі. Акрамя таго, прададзена 15 прычэпаў. Здавалася б, так і трэба, але вось у чым справа—набываюць тэхніку не калгаснікі, а работнікі трактарарамонтных заводаў. Рамантаваць трактары яны ўмеюць, ды і з запчасткамі таксама праблем не будзе, а потым, ужо па камерцыйных цэнах, тэхніка пойдзе за мілую душу. А гэту б тэхніку фермерам! На жаль, такі варыянт спрацоўвае слаба.

Працуе Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.

Фота М. АМЕЛЬЧАНКІ і Я. ПЯСЕЦКАГА.

# Без кожнага чацвёртага пачаў учора работу Вярхоўны Савет Беларусі

Цяжка сказаць, якія пільныя справы не дазволілі 90 дэпутатам не прыехаць на сесію. Магчыма, парламентарыі — «прагульшчыкі» вырашылі на зыходзе года раздзяліць з народам яго штодзённыя клопаты і прастойваюць дзе-небудзь у чэргах, спрабуючы атаварыць талоны? Як бы там ні было, парожнія месцы ў зале на гэты раз усур'ёз узрушылі тых, хто сумленна выконвае свае дэпутацкія абавязкі. С. Шушкевіч паведаміў, што спісы адсутных будуць перададзены ў друк. Акрамя таго, пытанне аб адказнасці дэпутатаў, якія не ўдзельнічаюць у пленарных пасяджэннях, вырашана абмеркаваць на сесіі. Можна чакаць, што размова гэта будзе вельмі непрыемнай для вялікай часткі парламентарыяў: «прагулы» сталі хранічнай хваробай Вярхоўнага Савета з самага пачатку яго работы. Няцяжка зразумець расчараванне тых, хто, разлічваючы на ганаровае дэпутацтва ўзору мінулых часоў, якое нічым не абцяжарвала і давала шмат прывілей, замест гэтага атрымаў абавязак цэлымі тыднямі і месяцамі напружана працаваць, жывучы ў гасцініцы і церпячы ўсе выдаткі камандзіровачнага побыту. Праўда, больш сумленна ў гэтым выпадку было б проста скласці з сябе дэпутацкія паўнамоцтвы.

Тое, што цяперашні Вярхоўны Савет далёкі ад узорнасці, разумеюць, бадай, усе дэпутаты. Але калі адна частка дэпутацкага корпуса настойліва імкнецца правесці хуткую рэарганізацыю, а ў перспектыве — і перавыбары, то другая не лічыць гэту праблему першараднай. Гэта процістаянне па адной з ключавых праблем у чарговы раз можна было назіраць учора ў час абмеркавання парадку дня сесіі. Апазіцыя зноў прапанавала разгледзець праект Закона аб выбарах, абмеркаваць парадак канстытуцыйнай рэформы Вярхоўнага Савета, большасць жа дэпутатаў, як і ў мінулыя разы, дружна адхіліла гэтыя прапановы.

Увогуле, марнымі аказаліся амаль усе спробы апазіцыі ўключыць у парадак дня разгляд дакументаў, прыняцце якіх умацавала б суверэнітэт, палітычную незалежнасць рэспублікі. Ні аб уласных Узброеных Сілах, ні аб забароне дзейнасці палітычных партый замежных дзяржаў на тэрыторыі Беларусі, ні аб прапанове паставіць па-за законам палітычныя арганізацыі, якія будуюць сваю дзейнасць на прапагандзе антыгуманных прынцыпаў (лідэры БНФ, прапануючы для абмеркавання гэта пытанне, відаць, мелі на ўвазе найперш пераможаную, але не вынішчаную КПБ), — ні аб чым гэтым Вярхоўны Савет весці размову на цяперашняй сесіі не пажадаў.

Такім чынам, сесія амаль цалкам будзе прысвечана надзённым эканамічным праблемам: бюджэту рэспублікі на наступны год, падатковай палітыцы, мерам па сацыяльнай абароне насельніцтва ва ўмовах рынку і г. д. Цяжка аспрэчваць, што эканамічныя праблемы выйшлі для рэспублікі на першы план, — ад іх вырашэння залежыць будучыня Беларусі. Але і з будаўніцтвам самастойнай дзяржавы сёння марудзіць нельга. У свеце пачалася паласа дыпламатычных прызнанняў усіх нашых суседзяў. Украіна хуткімі тэмпамі стварае ўсе неабходныя інстытуты незалежнай дзяржавы, вядзе актыўную знешнюю палітыку. Беларусь жа адкладвае наспеўшыя палітычныя праблемы на заўтра, зноў, у каторы ўжо раз пацвярджаючы незайздросную рэпутацыю палітычнай правінцыі.

**Валянцін ЖДАНКО.**

## Ці будзе «кран», які абяцае Чанг?

### Што за афіцыйным візітам?

Мінула тры месяцы пасля афіцыйнага візіту беларускай дэлегацыі на чале са Старшынёй Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь В. Кебічам у Паўднёвую Карэю. Тады асабліва значэнне мелі сустрэчы і перагаворы з прадстаўнікамі паўднёвакарэйскага бізнесу. Дзелавыя колы і асабліва кіраўнікі кампаній «Хёнда», «Голд Стар», «Самсунг», «КТЛ-К°ЛТД» і іншыя праявілі жывую цікавасць да канкрэтных прапаноў беларускай дэлегацыі па мадэрнізацыі прадпрыемстваў рэспублікі, пашырэнню магутнасцей па выпуску сінтэтычных матэрыялаў, абсталявання для харчовай прамысловасці і г. д.

У ліку першых паўднёвакарэйскіх кампаній, якія выказалі гатоўнасць супрацоўнічаць з беларускімі прадпрыемствамі, была і фірма «КТЛ-К°ЛТД». У пачатку лістапада 1991 года ў горадзе Светлагорску генеральны дырэктар вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» Анатоль Іванавіч Джус і прэзідэнт «КТЛ-К°ЛТД» Чанг Енг Санг падпісалі пратакол намераў узаемнага супрацоўніцтва. Згодна з гэтым пратаколам ВА «Хімвалакно» прапанавала для рэалізацыі на карэйскім рынку праз фірму «КТЛ-К°ЛТД» вуглевалакністыя матэрыялы і кампазіты, поліэфірныя тэкстыльныя ніці, аксалон і прадукцыю з віскозы. У сваю чаргу паўднёвакарэйская фірма ўзяла на сябе абавязацельствы прапрацаваць пытанне карэйскага маркецінгу гэтай прадукцыі, у тым ліку магчымага яе выкарыстання ў якасці сыравіны для ўласнай вытворчасці. Аднак камерцыйныя магчымасці партнёраў на гэтым не заканчваюцца. Як паведаміў генеральны прадстаўнік фірмы «КТЛ-К°ЛТД» у Рэспубліцы Беларусь Анатоль Кім, прэзідэнт фірмы Е. Чанг мае намер падпісаць пашыраны пратакол супрацоўніцтва з ВА «Хімвалакно», г. зн. пратакол намераў набудзе статус дагавора.

Акрамя гэтага, Е. Чанг прыслаў нядаўна на імя В. Кебіча пісьмо, у якім прапануе павялічыць магутнасці ВА «Азот» у Гродна па выпуску капралактаму і карбаміду. А, як вядома, гэтыя матэрыялы маюць попыт ва ўсім свеце. Адначасова Е. Чанг лічыць неабходным пачынаць будаўніцтва завода па выпуску кальцыніраванай соды, каб у перспектыве Беларусь стала вытворцай сусветнага маштабу гэтай важнейшай прадукцыі для нафтаперапрацоўчай, харчовай, мылаварнай, цэлюлозна-папяровай і інш. галін вытворчасці. У пісьме прэзідэнт адзначыў: «Беларусь будзе трымаць руку на кране кальцыніраванай соды гэтак жа, як сёння трымае ў сваіх руках Расія кран нафты.»

Паўднёвакарэйская фірма таксама прапанавала свае паслугі вытворчаму аб'яднанню «Наваполацкнафтааргсінтэз» па глыбокай перапрацоўцы нафты. Чакаецца, што пасля прыезду ў Беларусь прэзідэнта фірмы Е. Чанга гэтае пытанне будзе разгледжана. Канешне, калі ВА «Наваполацкнафтааргсінтэз» не знайшло іншага партнёра.

**А. ЗАЙКОЎСКІ.**

### ЦЭНЫ НА РЫНКАХ (у рублях) НА 17 СНЕЖНЯ

**САНКТ-ПЕЦЯРБУРГ (Кузнечны рынак).** Бульба (1 кг) — 5—10, капуста — 4—5, морква — 6—8, буракі — 10—12, смятана — 100, тварог — 40, малако — няма, свініна — 120—200, ялавічына — 70—150.

**ТАЛІН.** Бульба — 6—7, капуста — 3, морква — 5—6, буракі — 3, смятана — няма, тварог — няма, малако — няма, свініна — 40, ялавічына — няма.

**РЫГА.** Бульба — 5—7, капуста — 2—3, морква — 3—7, буракі — 3—4, смятана — 70—80, тварог — 40—50, малако — 8—10, свініна — 50—80, ялавічына — 50—90.

**МІНСК (Камароўскі рынак).** Бульба — 4, морква — 3—4, капуста — 2—3, цыбуля — 8—10, буракі — 3, агуркі салёныя — 12, смятана — 20, тварог — 20, масла — 50, яйкі — 15, свініна — 70—80, сала — 50, бараніна—60, ялавічына — няма, мёд — 100, яблыкі — 10—18, мандарыны — 20—30, пачка цыгарэт «БТ» — 8.

**«Агенцтва РІД».**

### АРГУМЕНТЫ Ў XII СТАГОДДЗІ

**НАВАГРУДАК. (В. Пятровіч). Па ініцыятыве мясцовага гісторыка-краязнаўчага музея пастаянная камісія па адукацыі і культуры гарадскога Савета народных дэпутатаў разгледзела пытанне аб удакладненні назвы старажытнага горада. Пазнаёміўшыся з гістарычнай даведкай, камісія палічыла патрэбным вярнуцца да ранейшага напісання — Наваградак.**

У розных гістарычных дакументах, якія датуюцца XII—XVII стагоддзямі, сустракаецца некалькі варыянтаў назвы горада: Новгород, Навгородак, Новогородок, прычым апошняя ў родным склоне, як сцвярджае кандыдат філалагічных навук В. Чамярыцкі, падавалася, як правіла, са злучальным «а»: «в Новàгородку».

Справа цяпер за жыхарамі горада і раёна. У газеце «Новае жыццё» надрукаваны «Лісток галасавання» з адзіным пытаннем: «Ці лічыце вы мэтазгодным вярнуцца да гістарычнай назвы горада Наваградак, якая і сёння жыве ў народзе?» Паводле апошніх даных, пераважная колькасць навагрудчан адказала «так». Канчаткова гэта пытанне вырашыцца на бліжэйшай сесіі гарсавета.

### КУПОНЫ РОБЯЦЬ ПЕРШЫ КРОК

**17 снежня інкасацыйнымі службамі пачаты завоз у камерцыйныя банкі і ўстановы рэспублікі новага грашовага эквіваленту — купонаў. Аб гэтым паведаміў карэспандэнту БЕЛТА старшыня праўлення Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Багданкевіч. Картачкі спажыўца з купонамі рознай вартасці будуць выдадзены ў студзеньскую зарплату.**

**Цяжка сказаць, ці будзе новая сістэма разлікаў за прадукты харчавання і тавары масавага спажывання цудадзейным эліксірам, які ўдыхне жыццё ў збяднелы за апошнія месяцы спажывецкі рынак Беларусі. Пакуль жа друкарскія машыны, якія штампуюць купоны, працуюць на поўную магутнасць.**

### ТАСС УПАЎНАВАЖАНЫ МАЎЧАЦЬ?

БОН, 17. (ТАСС). Уладальнікам яшчэ аднаго ганаровага, хоць і не зусім звычайнага тытула, стаў Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў. Папулярная германская газета «Більд» назвала яго «ганаровым немцам 1991 года», адзначыўшы тым самым яго заслугі ў справе аб'яднання Германіі.

Разам з М. С. Гарбачовым ганаровыя званні атрымалі старшыня фракцыі ХДС/ХСС у бундэстагу Вольфганг Шойбле, прыкаваны пасля цяжкага ранення да інвалíднай каляскі, але які працягвае актыўную палітычную дзейнасць, а таксама 22-гадовая спартсменка, самая хуткая жанчына ў свеце Катрын Крабе.

«Міхаіл Гарбачоў нядаўна заявіў, што ён зрабіў справу свайго жыцця», — піша «Більд». — Пакуль яшчэ не, Горбі. Мы хацелі б прысудзіць вам самую вялікую ўзнагароду, на якую мы здольны...»

***

Гэтая інфармацыя паступіла ўчора ў рэдакцыю ў 12 гадзін 42 мінуты. А роўна праз гадзіну — у 13 гадзін 42 мінуты — тэлетайп адстукаў наступнае распараджэнне ТАСС: «Паведамленне з Бона «Газета «Більд» прысудзіла Міхаілу Гарбачову званне «ганаровы немец года» зняць».

Гэты дзіўны фінт ТАСС мы пакідаем без каментарыя.

### БУДЗЬЦЕ ЗДАРОВЫМІ, ДЗЕЦІ!

**ЖЛОБІН. У горадзе ва ўрачыстай абстаноўцы адбылося адкрыццё новай дзіцячай паліклінікі на 300 наведванняў у змену. Дзіцячая лячэбная ўстанова размясцілася ў зручным для жыхароў горада месцы — побач бальнічна-паліклінічны комплекс раёна. З гарадскога бюджэту толькі на будаўніча-мантажныя работы на новай паліклініцы было выдзелена 1 мільён 700 тысяч рублёў.**

## Хочаце ў Садружнасць? Канчайце ваяваць!

На пасяджэнні Сойма Беларускага народнага фронту «Адраджэньне» вызначаны адносіны да Пагаднення аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў. «Трэба вітаць юрыдычнае пацвярджэнне развалу Савецкага Саюза, — гаворыцца ў прынятым інфармацыйным паведамленні. — Але калі па вялікаму рахунку, то падпісанне Беларуссю пагадненняў — гэта кампраміс. Перад рэспублікай па-ранейшаму стаіць выбар: або аказацца пад уплывам Расіі, або пайсці шляхам сапраўднай незалежнасці. БНФ даўно ўжо заявіў аб сваёй прыхільнасці менавіта да другога шляху, і яшчэ раз падкрэсліў, што рухацца па ім будзе значна хутчэй, калі цяперашні Вярхоўны Савет і Саўмін Беларусі пойдуць у адстаўку».

«Белавежскія» пагадненні названы недаўгавечнымі. Улічваючы, што на ўступленне ў Садружнасць прэтэндуюць і іншыя былыя саюзныя рэспублікі, у якасці ўмовы іх уступлення прапануецца захаванне на іх тэрыторыях правоў чалавека і адсутнасць ваенных дзеянняў.

БНФ зноў выказаўся за ўвядзенне Беларуссю нацыянальнай валюты (дарэчы, на пасяджэнні Сойма прагучала інфармацыя, што работа ўрада ў гэтым напрамку спынена), заявіў аб недапушчальнасці захавання на тэрыторыі Садружнасці адзінай арміі.

**БелаПАН.**

## «Зрабіце, каб не дайшло да стрэльбаў...»

**Стварэнне Садружнасці ўсяліла ў людзей надзею, што наша грамадства не скоціцца да крывавай катастрофы**

**Як вядома, спачатку вестка аб стварэнні Садружнасці была ўспрынята цэнтрам даволі холадна, нават варожа. Гэтыя ноткі адчуваліся і ў заяве Гарбачова. У ёй, дарэчы, Прэзідэнт былога СССР выказаўся за плебісцыт па пытанню аб лёсе Саюза, робячы тым самым намёк, што просты люд, наўрад ці адобрыць белавежскую ініцыятыву.**

**Але сёння ўжо відавочна, што Міхаіла Сяргеевіча ў чарговы раз падвяла прыхільнасць да старых схем, у даным выпадку — нежыццяздольнай нова-агароўскай канцэпцыі. Людзі ж убачылі ў стварэнні Садружнасці доўгачаканае святло ў канцы тунеля. Такі лейтматыў вялікай пошты, якая працягвае паступаць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь.**

«Цалкам падзяляем і падтрымліваем дзеянні кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па стварэнню новай супольнасці незалежных дзяржаў. Спадзявайцеся на нашу падтрымку», — такую тэлеграму даслалі супрацоўнікі кафедры гуманітарных дысцыплін Магілёўскага машынабудаўнічага інстытута.

«Мінск. Вярхоўны Савет. Станіславу Шушкевічу.

Ганаруся Вашай мужнасцю. Жадаю далейшых дзеянняў на карысць дзяржавы Беларусь. Мурашоў, г. Полацк».

«Віншую з цудоўным рашэннем дзяржаўнага пытання. Крылоў, г. Масква».

«Дзякуем за ратыфікацыю разумнага рашэння аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў. Чакаем актыўных дзеянняў па паляпшэнню дабрабыту народаў. Рабічэнка, г. Валгадонск».

У тэлеграмах, пісьмах — не толькі віншаванні і падтрымка, але і надзея, вера ў тое, што знойдзена адзіная рэальная магчымасць спыніць працэс размежавання, зберагчы гістарычнае адзінства нашых народаў.

### Адкрытым тэкстам

«У гэты цяжкі для Айчыны час стварэнне Садружнасці стане вяхой на шляху ўмацавання адзінства народаў. Славяне — толькі частка народаў нашага агульнага дома. Заканамерна, што менавіта яны адкрываюць дарогу свабоднаму нацыянальнаму развіццю для ўсіх, аб'яднанню людзей на карысць Айчыны. В. Кланаў, Прэзідэнт Міжнароднага фонду славянскай пісьменнасці, г. Масква».

Часам радкі не вызначаюцца вытанчанасцю стылю, але адчуваецца — ідуць ад сэрца: «Паверым у Вашу рашучасць. Хопіць гнуцца. Трымайце гонар рэспублікі і свой. Зрабіце, каб не дайшло да стрэльбаў. З павагай — У. Мяжэвіч, Аксакаўшчына».

«Калі мы зараз не знойдзем агульнай мовы і разыдземся па нацыянальных кватэрах, замест таго каб аб'яднаць намаганні і выжыць пасля Чарнобыля,— гэта будзе яшчэ большай катастрофай, чым чарнобыльская. Заклікаю аб'яднацца ўсім у барацьбе з агульным ворагам — голадам, хваробамі, палітычным хаосам, безгаспадарчасцю, злачыннасцю...»— радкі з пісьма жыхара г. Ліды К. Рахманава.

«Дзень 8 снежня 1991 года прапаную зрабіць дзяржаўным святам і назваць яго Днём падзякі грамадскасці славянскім народам. М. Кузняцоў, Урал».

Агульную думку мноства тэлеграм, паштовак, лістоў, дасланых у адрас Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, можна выказаць, бадай, тэкстам тэлеграмы, атрыманай з Варкуты:

«Варкуцінскі гарадскі рабочы камітэт вітае стварэнне Садружнасці. Выказваем пратэст супраць склікання З'езда народных дэпутатаў краіны. Гэты орган канчаткова страціў давер народа. Правядзенне рэферэндуму лічым немэтазгодным. Хопіць парламенцкаму прэзідэнту былога Саюза навязваць сваю волю незалежным рэспублікам...»

Вядома, пошта не можа прэтэндаваць на дакладны сацыялагічны зрэз грамадскай думкі. І ўсё ж яе тон яскрава сведчыць, што заклік, які прагучаў у Белавежскай пушчы, адгукнуўся разуменнем і шырокай падтрымкай мільёнаў і мільёнаў людзей. І гэта зразумела, бо ўжо абрыдла бясконцае пустазвонства палітычнай вярхушкі старога цэнтра, невыносным стала сціскаючае абцугамі сэрца прадчуванне крывавай катастрофы.

Так што зараз, напэўна, трэба не марнаваць час і сілы на сумніцельныя плебісцыты, а пастарацца на хвалі гэтай падтрымкі і надзеі як мага хутчэй і больш рашуча праравацца праз дрыгву хаосу да сапраўды гарманічнай і раўнапраўнай Садружнасці нашых народаў.

**Людміла КЛАСКОЎСКАЯ.**

## Згулялі ў рынак

**Сярод акцыянерных таварыстваў у Беларусі хутка з'явіцца яшчэ адно — АТ «ГАЗПРАМ» адкрытага тыпу на базе існуючага цяпер дзяржаўнага прадпрыемства «Захадтрансгаз».**

Ідэя стварэння акцыянернага таварыства з'явілася ў «Захадтрансгазе» яшчэ раней, але канчаткова афармілася пасля праведзеных тут дзелавых гульняў па распрацоўцы розных варыянтаў уваходжання ў рынак. У выніку кіраўніцтву прадпрыемства было прадстаўлена шэсць варыянтаў гаспадарчай стратэгіі ў новых умовах, а таксама адпаведныя арганізацыйныя структуры. Пасля абмеркавання ўсіх гэтых варыянтаў лепшай была прызнана менавіта ідэя АТ. Акцыянерны капітал у ім можа стаць дадатковай крыніцай інвестыцый, якія неабходны для развіцця. Продаж жа інвестыцый высокарэнтабельным структурам у значнай ступені абароніць прыбытак прадпрыемства і яго ўклады ў сацыяльную сферу ад інфляцыі, тэмпы якой, паводле прагнозаў спецыялістаў, у наступным годзе не зменшацца. Намечана прыцягнуць у АТ замежны капітал. Каля 20 працэнтаў акцый плануецца прадаць прыватным асобам.

Сыгралі на прадпрыемстве ў рынак (а ў гэтай гульні прынялі ўдзел каля 60 чалавек з кіраўніцкіх структур) па ініцыятыве генеральнага дырэктара У. Свірыдзенкі. Непасрэдным жа арганізатарам выступала Вышэйшая школа менеджэраў пры спецыяльным факультэце перападрыхтоўкі кадраў Беларускай політэхнічнай акадэміі. (Як адзначыў дэкан факультэта Л. Жаўтанога, падобныя ўрокі менеджменту былі дадзены таксама на ДПЗ-11, МТЗ і іншых мінскіх прадпрыемствах, а таксама Волжскім аўтамабільным). А праводзіліся гульні ў Клайпедзе, якая таксама трапляе пад юрысдыкцыю «Захадтрансгазу». Прычым удзельнічалі ў іх і прадстаўнікі з прыбалтыйскіх дзяржаў, што, між іншым, пацвярджае наступны факт: эканамічныя сувязі заўсёды мацней за палітычныя.

**І. АЛЯКСАНДРАЎ.**

## ПАСТАНОВА Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### АБ НАЗНАЧЭННІ МІНІСТРА ПА СПРАВАХ АБАРОНЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Назначыць міністрам па справах абароны Рэспублікі Беларусь Чауса Пятра Рыгоравіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**
**С. ШУШКЕВІЧ.**

11 снежня 1991 г. г. Мінск.

## ФАКТ

**«НЕБЯСПЕЧНАЯ» ЖАНЧЫНА**

Упершыню на пасаду кіраўніка англійскай службы бяспекі (МІ-5) назначана жанчына. Стэла Рымінган, так яе завуць, з'яўляецца намеснікам генеральнага дырэктара МІ-5 і будзе атрымліваць аклад у 77.500 фунтаў стэрлінгаў у год.

**ЦЫВІЛЬНЫЯ КАНТАКТЫ ПА ВАЕННАЙ СЕТЦЫ**

Германская фірма «Тэлеком» мае намер набыць за 150—200 мільёнаў марак савецкую ваенную тэлефонную сетку, якая звязвае былую ГДР з Савецкім Саюзам. Аб гэтым паведаміў штотыднёвік «Шпігель». Як указвае часопіс, гэта дазволіць не толькі палепшыць тэлефонную сувязь у самой Усходняй Германіі, але і значна аблегчыць кантакты па тэлефоне з савецкімі рэспублікамі.

**І БУШАМ НЕЗАДАВОЛЕНЫ**

Папулярнасць прэзідэнта ЗША Джорджа Буша ўпершыню за гады яго прэзідэнцтва ўпала ніжэй за адзнаку 50 працэнтаў. Пра гэта сведчаць апублікаваныя вынікі апытання, праведзенага па заказу тэлекампаніі Эй-Бі-Сі і газеты «Вашынгтон пост».

Толькі 47 працэнтаў амерыканцаў выказалі агульнае задавальненне дзейнасцю Буша на пасадзе прэзідэнта. 50 працэнтаў выставілі яму нездавальняючую ацэнку, астатнім цяжка было выказаць пэўную думку наконт гэтага.

**СВАІХ ПАВЫЛЕЧВАЛІ ЎЖО!**

**Адразу 14 біяэнергатэрапеўтаў, якія прыехалі з Украіны, давалі на мінулым тыдні сеансы ў польскім горадзе Пшэмыслі. Нашэсцем новых «кашпіроўскіх» з былога Савецкага Саюза назвала гэты факт газета «Кур'ер польскі».**

**ЦІШЭЙ ЕДЗЕШ, ДАЛЕЙ БУДЗЕШ**

Аўтацягач з ядзерным палівам пацярпеў аварыю і загарэўся на шашы ў амерыканскім горадзе Спрынгфілд (штат Масачусетс). Паводле паведамлення ўлад, небяспечны груз застаецца ў стальных кантэйнерах і пагрозы выкіду радыяцыі амаль няма. Гэты груз агульнай вагой каля 5 тон накіроўваўся з прадпрыемства кампаніі «Джэнерал электрык» на атамную электрастанцыю.

**ЁСЦЬ УСЁ І НАВАТ САМАГОН**

**СТАКГОЛЬМ. Самагонаварэнне становіцца распаўсюджанай з'явай у Швецыі. У Мальма — трэцім па велічыні горадзе краіны паліцыя кожны тыдзень арыштоўвае як мінімум аднаго чалавека за незаконны выраб моцных спіртных напіткаў у хатніх умовах. Прыкладна 10 працэнтаў арыштаваных — жанчыны. Толькі за апошнія шэсць месяцаў на разгляд судовых органаў горада паліцыя прадставіла 34 справы аб канфіскацыі самагонных апаратаў рознай магутнасці.**

**ХОЧАЦЕ ПАТЭЛЕФАНАВАЦЬ КАРАЛЕВЕ! КАЛІ ЛАСКА!**

КАПЕНГАГЕН. Цяпер дазваніцца да кіраўніка Дацкай дзяржавы каралевы Маргрэтэ II будзе значна прасцей. Раней гэта праблема была выклікана тым, што даволі цяжка было вызначыць, у якім з чатырох сваіх замкаў яна знаходзіцца. Цяпер устаноўлены адзіны тэлефонны нумар для ўсіх рэзідэнцый Маргрэтэ II — 33-40-10-10.

*(Па матэрыялах ТАСС і друку).*

ФАКТ ФАКТ

ЧАС ПАДПІСАННЯ У ДРУК: ПА ГРАФІКУ 21.05, НУМАР ПАДПІСАНЫ У 21.05.

# Чытач просіць слова

## ДЗЯКУЙ, ДОБРЫЯ ЛЮДЗІ!

Я — мнагадзетная маці, гадую чатырох хлопчыкаў і дзяўчынку. Шмат гадоў наша сям'я выпісвае вашу газету. Яна нам вельмі падабаецца. А сёння ўпершыню адважылася сама напісаць вам — расказаць пра добрых і чулых людзей, з якімі давялося нядаўна сустрэцца. У гэты неспакойны час, калі большасць людзей клапоціцца толькі аб сваім дабрабыце і зусім не думае аб патрэбах блізкага, дабрыня і спагада на справе, а не на паперы, асабліва кранае.

Усяго адзін раз давялося мне пагутарыць па тэлефоне з работнікам камітэта «Дзеці Чарнобыля» Уладзімірам Іосіфавічам Галынскім аб здароўі маіх дзяцей. І неўзабаве нас забяспечылі вітамінамі, якіх днём з агнём не знойдзеш у аптэках і якія вельмі патрэбны пры адсутнасці ў магазінах садавіны і агародніны і высокіх рынчных цэнах.

Ад такіх добрых чалавечых адносін робіцца цяплей на душы, бо адчуваеш, што ты не пакінуты сам-насам са сваімі бедамі. Дзякуй вам, добрыя людзі, і нізкі паклон.

**Валянціна ЛАПУЦІНА,**
**мнагадзетная маці.**

г. Магілёў.

## ГАПАК... ВАКОЛ ТЭЛЕВІЗАРА

Добры дзень, паважаная рэдакцыя «Звязды»! Хоць ваша газета на беларускай мове, я яе вельмі люблю чытаць. Але справа не ў гэтым. Даўно збіраўся звярнуцца да вас за дапамогай. Мне не зразумела, чаму людзі, якія выпускаюць бытавую і іншую тэхніку (а яна цяпер вельмі дарагая), не цэняць сваёй фірмы, як гэта робяць японцы, амерыканцы, немцы. Наколькі ведаю, яны самі прыедуць, заменяць новы тэлевізар (калі ён раптам сапсаваўся), заплацяць за тыя дні, якія ён дрэнна працаваў ці не працаваў зусім. І яшчэ папросяць прабачэння.

Нашы ж «фірмачы», калі іх можна так назваць, прададуць той жа тэлевізар, возьмуць грошы, і хоць гарантыю даюць на 12 месяцаў (не тое, што японцы, — на 20 гадоў), а ён праз некаторы час ужо не працуе. Вось і я купіў за 1.200 рублёў тэлевізар «Гарызонт» 61 ТЦ421 «Д» № 0110 15233 (кінескоп 61ЛК5Ц-1 № 053074) вытворчага аб'яднання «Гарызонт», што ў г. Мінску. Дата продажу значыцца 15 сакавіка 1991 г. А праз паўгадзіны пасля ўключэння ён стаў міргаць, потым пачало знікаць адлюстраванне. Смешна сказаць, але даводзіцца нагой шукаць месца на падлозе, дзе трэба моцна тупнуць, каб запрацаваў тэлевізар. А цяпер ужо і колер прапаў: замест розных колераў толькі зялёны. Зялёнае ўсё, нават тое, што павінна быць чырвоным ці сінім. Вось і глядзім каляровы тэлевізар як чорна-белы, але толькі ўжо не за 400, а за 1.200 рублёў. Выходзіць, мы заможна жывём.

Скажыце, што мне рабіць? Хачу яшчэ парэкамендаваць, каб параіліся з Сімферопальскім заводам, як там робяць свае тэлевізары «Фатон-747», які ў мяне ішоў з 1978 па 1991 год без рамонту і замены кінескопа. А пакуль хутчэй за ўсё давядзецца ўключыць той стары, які я захаваў, ведаючы, што новае не заўсёды лепшае. А гэты няхай забяруць і зробяць мне другі, я пачакаю, калі «Гарызонт» будзе працаваць, гэтак жа бездакорна, як сімферопальскі тэлевізар.

На жаль, майму «Гарызонту» да тых жа японскіх тэлевізараў далёка, як да гарызонту.

**В. ШАПАВАЛАЎ.**

г. Рагачоў.

## ТАКІ ВОСЬ БАРТЭР!

Летась Савет Міністраў рэспублікі забараніў абмен таварамі, продаж якіх жыхарам нарміруецца, паміж рознымі прадпрыемствамі. Адначасова адпаведнымі загадамі Міністэрства гандлю і Белкаапсаюза ўстаноўлена, што тавары, пералічаныя ў талонах візітных картак, адпускаюцца ў асабістае карыстанне людзей пасля адабрання гэтых талонаў.

Аднак што назіраецца на справе? З-за неканкрэтнасці дзеючага заканадаўства прамысловыя прадпрыемствы вобласці (відаць, і рэспублікі таксама) адгружаюць за межы Беларусі нарміраваныя тавары згодна з тавараабменнымі аперацыямі, прычым нярэдка нераўнацэннымі. Потым гэтыя тавары прадаюцца на прадпрыемствах, арганізацыях і ўстановах сваім работнікам. Талоны ж пры гэтым не адбіраюцца і іх работнікі, такім чынам, ставяцца ў прывілеяванае становішча, бо маюць магчымасць набыць такі ж тавар яшчэ і ў гандлі. Прыкладаў можна прывесці процьму. Укажу толькі некаторыя.

Мясцовае вытворчае аб'яднанне мясамалочнай прамысловасці абавязалася паставіць другому аб'яднанню — швейнаму вытворчаму «Камінтэрн» абсталяванне, закупленае на валюту. І атрымала ад яго 5.138 адзінак швейных вырабаў, якія былі рэалізаваны сваім жа работнікам. Прычым 104 з іх (гэта ў асноўным мужчынскія касцюмы!) дасталіся апарату аб'яднання, дзе працуе 77 чалавек.

Зараз «Камінтэрн» плануе тавараабменныя аперацыі, якія наша служба лічыць неправамернымі. А менавіта: адгрузіць Гомельскаму акцыянернаму таварыству «Абзац», Мінскаму заводу халадзільнікаў, Гомельскай таварнай біржы «Брокер» вялікую колькасць сваіх вырабаў у абмен на іх тавары, будаўнічыя матэрыялы і дапамогу ў арганізацыі здзелак па продажу сыравіны, тэхналогій і г. д. на іншых таварна-сыравінных біржах краіны.

Возьмем Светлагорскае вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно». І тут падобны малюнак. Яго калектыў атрымаў з Анапы пуцёўкі ў санаторыі, курорты і піянерскія лагеры на 275 тысяч рублёў, а адгрузіў туды палатна трыкатажнага і поліэфірнай ніткі на 763 тысячы рублёў. Аналагічна з Дагестана паступіла такіх пуцёвак на 21 тысячу рублёў, а пастаўлена туды тавараў на 37,6 тысячы рублёў.

Акрамя таго, для вырашэння асабістых і прыватных пытанняў сістэматычна адпускаюцца спартыўныя касцюмы, штаны, поліэфірнае трыкатажнае палатно розным прадпрыемствам і арганізацыям вобласці, дзе, як паказала праверка, гэтыя тавары прадаюцца без адабрання талонаў. Ужо атрымалі спартыўныя касцюмы Светлагорскі гарком камсамола (230), аддзел унутраных спраў Светлагорскага гаррайвыканкома (400), Гомельскі аўтарамонтны завод (1000), Гомельэнерга (950), Гомельская асацыяцыя «Гармонія» (200), аддзяленне чыгункі (100), камерцыйны цэнтр (50) і г. д.

Наша служба спрабавала ўздзейнічаць на работнікаў, якія парушаюць парадак рэалізацыі тавараў, накіроўвалі ў народныя суды матэрыялы для прыцягнення вінаватых да дысцыплінарнай адказнасці па Закону «Аб часовых мерах па абароне спажывецкага рынку Беларускай ССР», які не страціў сваёй сілы. Аднак кожны раз атрымлівалі ад варот паварот: маўляў, продаж нарміраваных тавараў з адабраннем талонаў павінен рабіцца ў гандлі, а не на прадпрыемствах і арганізацыях, дзе тавары атрымліваюць па бартэру.

Мы лічым, што на перыяд дзеяння вышэйпамянёнага закона, улічваючы цяжкую сітуацыю з пастаўкай насельніцтву тавараў, у яго неабходна ўнесці дапаўненне. А менавіта: каб усе прадпрыемствы, арганізацыі, установы, незалежна ад іх падначаленасці, прадавалі нарміраваныя тавары (у тым ліку і харчовыя) сваёй вытворчасці ці закупленыя недзе толькі пасля адабрання талонаў.

**С. БАС,**
**начальнік упраўлення Дзяржаўнай інспекцыі па гандлю і абароне правоў спажыўцоў пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у Гомельскай вобласці.**

## ЦАНА ГАЛАВАЦЯПСТВА

У народзе кажуць, што бяда адна не ходзіць, а за сабой другую водзіць...

Яшчэ ў снежні 1986 года ля станцыі Руміна Аршанскага раёна было распачата будаўніцтва базы мінеральных угнаенняў і ядахімікатаў для райсельгасхіміі.

Амаль за два гады на будоўлю затрацілі 276,6 тысячы рублёў. Але ад насельніцтва пайшлі скаргі ў райвыканком, раённую газету, пракуратуру аб тым, што гэты аб'ект узводзіцца ў зоне санітарнай аховы водазабора «Паўднёвы», што прывядзе да атручвання вады, неабходнай для насельніцтва Оршы, нітратамі і ядахімікатамі. Але раённыя ўлады не змаглі спыніць будаўніцтва. Справу перадалі ў Віцебскі аблвыканком. Была назначана камісія, якая дэталёва прааналізавала становішча і прыйшла да вываду аб неабходнасці спыніць будаўніцтва. І ў кастрычніку 1989 года аблвыканком прыняў рашэнне аб яго спыненні і пакаранні вінаватых. Справу перадалі ў абласную пракуратуру.

Там сяк-так правялі праверку, зафіксавалі факты безгаспадарчасці, нядбайнасці, абыякавасці да будаўніцтва экалагічна небяспечнага аб'екта ў санаторна-ахоўнай зоне водазабора. І што ж? Высветлілася, што такую добрую паслугу зрабілі кіраўнікам раённага аб'яднання «Сельгасхіміі» работнікі Аршанскай райсанэпідстанцыі (зараз раённы цэнтр гігіены і эпідэміялогіі). Вінаватым аказаўся і абласны цэнтр гігіены і эпідэміялогіі, які не адмяніў няправільнага рашэння сваіх падначаленых. У выніку галавацяпства і людзям, і гаспадарцы нанесена значная шкода, а народныя грошы вылецелі ў трубу. Абласная пракуратура прад'явіла іск аб кампенсацыі гэтых затрат.

Затым адбыўся суд, які вынес рашэнне аб спагнанні з Віцебскага абласнога і Аршанскага раённага цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі неапраўдана выдаткаваных грошай на карысць раённага аб'яднання «Сельгасхіміі» ў суме 276,6 тысячы рублёў.

Як бачым, вінаватыя знойдзены. І зараз справа за тым, каб службовыя асобы вылажылі грошыкі з уласнай кішэні.

**Георгій МАРОЗ.**

г. Орша.

# РЫНАЧНЫЯ КАРТКІ,

## альбо Прывітанне ад развітога сацыялізму

**Галоўнае ўжо ўсім вядома: лібералізацыя цэн адбудзецца 2 студзеня 1992 года. З новага года мы пачынаем новае жыццё ў новай сістэме цэнавых каардынат. Астатняе — дэталі.**

**Толькі якраз пра дэталі самы час пагутарыць больш падрабязна. Факт лібералізацыі цэн не павінен у нашых вачах засланяць механізм яе правядзення.**

Мінчане даведаліся пра намер гарадскіх улад увесці карткі на прадукты харчавання, якія раней адпускаліся па талонах. Жорсткае нарміраванне пры свабодных цэнах — гэта вельмі дзіўна гучыць. Свабодная цана тым і адрозніваецца ад дырэктыўна занікажанай, што пры ёй тавар каштуе столькі, каб не расхоплівалася з дзікімі крыкамі ў нецывілізавана даўжэзных чэргах.

Але ўлады пайшлі яшчэ далей — вырашылі замацаваць усіх грамадзян за прадуктовымі крамамі па месцы іх жыхарства. Гэта сістэма будзе нагадваць даўнія часы прыгоннага права: пэўны набор прадуктаў чалавек зможа купляць толькі ў адным з магазінаў, дзе на яго будзе заведзена асобная картка з падрабязнай фіксацыяй пакупак. Вы толькі ўявіце сабе, што гэта будуць за чэргі! Усе будуць цярпліва чакаць, пакуль прадавец знойдзе картку грамадзяніна (мажліва, таксама яго жонкі і дзяцей), праверыць, што ён ужо набыў, а на што яшчэ мае права, адпусціць тавар і занатуе яго колькасць у той жа картцы. Прытым, скажам, крупы, масла, алей, яйкі звычайна прадаюцца ў розных аддзелах гастраномаў. Дык што, у кожным будзе асобная картка, ці яна прадугледжана адна і яе будуць насіць з аддзела ў аддзел? Цікава, хто канкрэтна вынайшаў гэту «зручную» сістэму забеспячэння насельніцтва прадуктамі? Паглядзець бы яму ў вочы... Ведаеце, я не здзівіўся б, каб раптам высветлілася, што гэты чалавек усё жыццё атаварваўся ў закрытых размеркавальніках і не разумее, як робяцца пакупкі ў звычайным гастраноме.

Побач з домам, дзе я жыву, ажно тры прадуктовыя крамы. І я ніколі не хаджу толькі ў адну, таму што практычна ніколі не здаралася так, каб у адным месцы аказаліся ўсе патрэбныя прадукты. Бо забеспячэнне магазінаў у нас вядзецца не зыходзячы з патрэб насельніцтва, а цалкам залежыць ад адносін раённага гандлёвага начальства да дырэктара. Таму ў адным магазіне ў аддзеле бакалеі адны ячныя крупы, у другім не знойдзеш мукі і доўгай вермішэлі, у трэцім масла заўсёды колерам і смакам нагадвае маргарын. А часам можна ўвогуле нічога каля дома не купіць, і тады трэба прабегчыся ў абедзенны перапынак па магазінах каля Дома друку. Сумна, але з новага года некалькі магазінаў ужо не аббяжыш. Ідзі ў свой адзіны, «законны», і бяры, што даюць, — тым больш, што патрапіш сюды пасля рабочага дня, калі засталося не так шмат (і ці засталося наогул?).

Перспектывы з «прыгонным магазінным правам» нас чакаюць невясёлыя. Гэта я магу прагназіраваць з вялікай доляй упэўненасці, бо даўно на ўласнай скуры зведаў, што гэта за радасць.

Калі ў мяне нарадзіўся сын, дзіцячая паліклініка прымацавала яго на набыццё дзіцячага харчавання да універсама «Заслаўе». Пашкадаваў я аб гэтым вельмі хутка. Калі ў дзіцячых аддзелах іншых магазінаў, дзе мне даводзілася бываць, дзіцячае харчаванне мелася пастаянна і некалькіх найменняў, то ў «Заслаўі» — аднаго-двух і эпізадычна. Апошні раз я атаварыўся там у сакавіку, прастаяўшы ў чарзе дзве гадзіны. Больш ні разу на садавінныя кансервы для дзяцей мне там натрапіць не прыйшлося. Затое ў гастраноме, скажам, па вуліцы Веры Харужай бачыў тыя кансервы вельмі часта, але не «мой» магазін. Такая вось «сацыяльная справядлівасць», на якую любяць спасылацца пры кожным сваім новым «вынаходстве» гандлёвыя чыноўнікі. І маштаб яе пашырыцца.

Не навіна ўжо і ўвядзенне з новага года на тэрыторыі рэспублікі купонаў, што прызначаны ахоўваць беларускі спажывецкі рынак. Наўрад ці купоны, якімі будзе забяспечана нейкая частка зарплаты працуючых, а таксама стыпендыі і пенсіі, «спрацуюць» лепш, чым уласная рэспубліканская валюта. Але кіраўнікі рэспублік Садружнасці на нядаўняй сустрэчы ў Віскулях вырашылі ў будучым годзе ад увядзення сваіх валют устрымацца.

Ну, добра, калі сапраўды з валютай трэба пачакаць, няхай пакуль што будуць купоны. Толькі навошта іх рабіць не шматразовага карыстання, а адрыўнымі аднаразоўкамі? Паперы ў Беларусі зашмат? І нават не ў паперы справа. Ужо на прыкладзе талонаў мы ведаем, як лёгка падрабляюцца гэтыя немудрагелістыя паліграфічныя «шэдэўры». У друкарнях, на ксераксах і іншымі спосабамі іх было безліч выраблена ўмельцамі для сябе, для сяброў і на продаж. Што перашкодзіць ім штампаваць купоны? Адказнасці практычна ніякай —гэта ж не грошы. Тым больш, што за тавары, атрыманыя па падробленых талонах-купонах, рублямі заплачана спаўна, фактаў крадзяжу няма, страт дзяржава не нясе.

У сістэме гандлю, як вядома, аднаразовыя талоны (а пасля 1 студзеня і купоны) ствараюць спрыяльную глебу для злоўжыванняў. Талоны ж у банк не здаюцца, яны знішчаюцца. А можна і не знішчаць, запусціўшы ў абарачэнне па другому разу. Прынамсі, у прэсе паведамлялася ўжо, з якой нядбайнасцю (ці выпадковай?) без сведак дзе-нідзе адбывалася працэдура знішчэння. Я сам аднойчы чуў у магазіне доўгія блытаныя тлумачэнні наконт таго, куды падзеліся з аддзела талоны на цукар. Прадаўшчыца сцвярджала, што ўсе талоны ў поліэтыленавым мяшку звaліліся ў бочку з алеем, потым былі раскладзены на прасушку на двары, адкуль іх некуды выкінула прыбіральшчыца і г. д. З гэткай жа доказнасцю яна магла распавядаць аб крадзяжы талонаў на цукар зялёнымі пілотамі НЛА.

Ці здолее аднаразовы адрыўны купон стаць сур'ёзнай перашкодай на шляху махінацый з дэфіцытам, паспрыяць напаўняльнасці ледзь жывога рубля, стрымаць інфляцыйныя працэсы? Ёсць сумненні.

Ці стабілізуюць спажывецкі рынак адпушчаныя на волю, «лібералізаваныя» цэны больш чым на месяц-паўтара? Наўрад ці гэта магчыма без прыватызацыі гандлю і прамысловасці, а ва ўмовах дзяржманапалізму «лібералізацыя» не мае іншага значэння, апрача шалёнага росту і хутчэйшага раскручвання інфляцыйнай спіралі.

Вазьму на сябе смеласць выказаць здагадку, што мае сумненні падзяляюць і ўлады. Інакш не прымацоўвалі б нас да магазінаў і не саджалі на карткі. Паўтаруся: рынак і нарміраванне — рэчы несумяшчальныя, і гандаль па картках на свабодныя цэны ў магазінах дзяржсектара гучыць гэтак жа смешна, як у свой час свабодныя выбары з адной кандыдатуры пры развітым сацыялізме.

**Аляксандр БЯРСУДСКІ.**

## Міністэрства адукацыі папярэджвае...

**У апошні час у сродках масавай інфармацыі рэспублікі пачалі паяўляцца аб'явы аб правядзенні набору на вучобу ў недзяржаўныя навучальныя ўстановы. Называецца размер платы за навучанне, паведамляецца, што пасля заканчэння ўстаноў іх выпускнікам выдаецца дыплом дзяржаўнага ўзору. І, вядома ж, гарантуецца высокі ўзровень падрыхтоўкі спецыялістаў.**

**Як ставіцца да такіх аб'яў, наколькі ім можна верыць? Адказаць на гэта пытанне карэспандэнт БЕЛТА папрасіў намесніка міністра народнай адукацыі рэспублікі Георгія БУТРЫМА.**

— У адпаведнасці з Законам «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь» наданне ўстановам статуса навучальных аднесена выключна да кампетэнцыі нашага міністэрства. Законам вызначаны парадак стварэння вышэйшых, сярэдніх спецыяльных і сярэдніх навучальных устаноў, патрабаванні да іх. Аднак пакуль яшчэ ў міністэрства не паступала ніякіх дакументаў аб арганізацыі недзяржаўных навучальных устаноў. І мы не можам несці адказнасць за тое, як у іх вядзецца навучальны працэс, за метадычнае забеспячэнне навучання, якасць выкладання.

Неабходна таксама папярэдзіць, што на асоб, якія вучацца ў недзяржаўных вышэйшых і сярэдніх спецыяльных установах, не распаўсюджваецца парадак адтэрміноўкі ад службы ва Узброеных Сілах, а дакументы, якія выдаюцца выпускнікам, не могуць разглядацца на ўзроўні дзеючых дакументаў аб адукацыі.

## Ало, з Новым годам!

**Дылему — вусна ці пісьмова павіншаваць родных і блізкіх з Калядамі і Новым годам — вырашаюць цяпер жыхары мікрараёна Кавалёва ў Брэсце. Напярэдадні свята сувязісты здалі тут новую АТС на пяць тысяч абанентаў. Адначасова ў горадзе часткова ўводзяцца шасцізначныя нумары. Такім чынам з іншых гарадоў саміх брастаўчан, чые тэлефоны пачынаюцца на адзінку, двойку і чацвёрку, цяпер можна павіншаваць, набраўшы спачатку яшчэ адну «4».**

## Як справы, служба?

## Рыдлёўкі ў салдацкіх пятліцах...

Мы ўсё скардзімся на нікчэмны айчынны навуковы патэнцыял, з зайздрасцю глядзім на тэхнічныя цуды японцаў і амерыканцаў, а самі не ведаем, што ў нас створаны бездакорныя робаты, ды не нейкага там пятага або шостага пакалення, а семдзесят чацвёртага! Але калі за «бугром» разнастайныя канструктарскія бюро ў поце чала працуюць над тым, каб у рэшце рэшт цалкам аўтаматызаваць вытворчасць, мы вырашаем гэту праблему іншым шляхам: скідваем нашы гаспадарчыя клопаты на салдацкія спіны.

Цяжка нават падлічыць, колькі канкрэтна тысяч паверхаў жылых дамоў, устаноў узведзена рукамі самай таннай у свеце рабочай сілы, колькі цэнтнераў бульбы, капусты, морквы ўбрана з палёў нашых гаспадарак людзьмі з пагонамі, колькі тон вугалю, цэменту, шлаку, пяску перапапачана імі ж на чыгуначных станцыях... Так, гэта наша армія, якой самы раз мець на пятліцах не танкі і гарматы, а лом і рыдлёўку. Сёння мільённае войска наогул заспета знянацку: якія рубяжы і ад каго ахоўваць, пад якімі сцягамі і каму прысягаць на вернасць? Зарастаюць бур'янам палігоны, іржавеюць пад адкрытым небам тыя ж танкі і гарматы. Зацягнуўся пераходны перыяд. А што ж асабовы састаў? У большасці сваёй салдат можна ўбачыць на агароднінасховішчах, на базах, карацей кажучы, там, дзе патрэбна безадмоўная рабочая сіла.

Не губляюць дарэмна часу і камандзіры. Яно і зразумела — многія пачалі з асцярогай заглядваць у дзень заўтрашні і, не бачачы цікавых перспектыў, імкнуцца хоць неяк перастрахавацца. Як? Ну, напрыклад, пабудаваць дачу, гараж. І крыміналу ў гэтым, вядома ж, няма. Зразумела і тое, хто менавіта будзе весці такую будоўлю — вядома ж, падначаленыя салдаты. Кансенсус дасягаецца проста: афіцэр задаволены паслухмянымі работнікамі, салдат — магчымасцю вырвацца за межы вайсковай часці і змяніць абрыдлы рацыён салдацкай сталоўкі. Усе задаволеныя — усе смяюцца. Праўда, не заўсёды. Не смяецца той, хто ад гэтага пакутуе.

Такі выпадак здарыўся ў Мінску, па вуліцы Скарыны, дзе размешчаны гаражы для ўласнага транспарту грамадзян. Аднаго разу аўтааматары са здзіўленнем убачылі, што тэрыторыя аказалася ў кальцы... ваеннай тэхнікі. Сама сабой узнікла думка аб акупацыі. На шчасце, высветлілася, што гэта афіцэр Савецкай Арміі капітан С. вырашыў узвесці сабе гараж. Праўда, як гэта і стасуе ваеннаму чалавеку —з рызыкай для сябе і іншых. Справа ў тым, што асноўная частка пабудоў знаходзіцца на ўзгорку з крутым схілам. Менавіта тут, у лагчыне, і распачаў кіпучую дзейнасць армейскі бос. Лес сякуць—трэскі ляцяць, гэта па-першае. У імгненне маляўнічы куток зямлі быў ператвораны ў бруднае месіва. Акрамя таго, у парыве энтузіязму быў зроблены... падкоп пад асноўны гаражны масіў, што ў сваю чаргу стварыла пагрозу апоўзня. Але ўсё гэта не цікавіць «свабоднага прадпрымальніка». Дзе не прайшла тэхніка, узброіўшыся рыдлёўкамі і ламамі, пайшоў пяхотны дэсант.

Такі ход падзей, вядома, ніяк не задавальняў тых, пад каго капалі. Ад капітана С. пачалі патрабаваць прад'яўлення дазволу на будаўніцтва. Як той ні пераконваў, што яно ёсць, прадстаўнік улады, што прыбыў на месца, паставіў кропкі над «і»: у ваеннага разгулялася ўяўленне. Зараз гэтай справай займаецца міліцыя. Да такіх вось безвыніковых гульняў прыводзіць занадта вялікая самаўпэўненасць. Відаць, не здолеў знайсці афіцэр мяжу паміж сваёй службай, дзе менавіта ён «качае правы», і цывільным бокам жыцця, дзе прыходзіцца ведаць меру свайго «я». Самадзейнасць у даным выпадку караецца.

А тым часам жыццё не стаіць на месцы. «Брытагаловыя» па-ранейшаму актыўна ўдзельнічаюць у масавым спаборніцтве па пераносу цяжараў, упэўнена займаючы першае месца, актыўна вырашаюць праблему будаўніцтва на вытворчасці і ў «прыватным сектары» сваіх камандзіраў. А ў часці? З надыходам зімы і з першым снегам падваліла работы і тут: масавая і ўдарная ўборка снегу, ювелірная работа па яго сціртаванню абапал дарогі ідэальна правільнымі геаметрычнымі фігурамі. І можаце быць упэўненымі — халтура не пройдзе...

**Ігар КАРНЕЙ.**

# Стаўка на гарызантальныя сувязі

## Аб забеспячэнні рэспублікі матэрыяльнымі рэсурсамі на 1992 год

**Эканамічная абстаноўка ў Рэспубліцы Беларусь у бягучым годзе складваецца пад моцным уздзеяннем становішча ў іншых рэгіёнах, ва ўмовах парушаных сувязей і зніжэння аб'ёмаў вытворчасці.**

Забяспечанасць рэспублікі ўласнымі сыравіннымі рэсурсамі: у нас здабываецца 2 млн. тон нафты, а перапрацоўваецца 39 млн. тон у год (толькі для патрэб рэспублікі неабходна 30 млн. тон); выпускаемы пракат чорных металаў забяспечвае нашы патрэбнасці на 7 працэнтаў, цэмент — на 26, дзелавая драўніна — на 44, алей — на 14, цукар — на 61; каменны вугаль, бавоўна, воўна, кальцыніраваная сода і многія іншыя сыравінныя рэсурсы завозяцца ў рэспубліку поўнасцю; неабходна закупляць штогод да 4 млн. тон збожжа.

У рэспубліцы распрацаваны і рэалізуюцца канкрэтныя праграмы па змяншэнню залежнасці ад паставак з-за яе межаў. Важнейшымі напрамкамі работы з'яўляецца павышэнне тэхнічнага ўзроўню прадукцыі, яе канкурэнтаздольнасці, стварэнне сумесных прадпрыемстваў у іншых рэспубліках і ў Беларусі з выкарыстаннем іх сыравінных рэсурсаў і нашых інвестыцый. Напрыклад, у РСФСР ствараюцца сумесныя прадпрыемствы па нарыхтоўцы і перапрацоўцы драўніны, сумесна з Кыргызстанам намячаецца будаўніцтва камвольна-прадзільнай і бавоўнапрадзільнай фабрык у гэтай рэспубліцы з пастаўкай 50 працэнтаў прадукцыі ў Беларусь.

Пры адсутнасці цэнтралізаванага матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння асаблівую значнасць набылі гарызантальныя сувязі з іншымі рэспублікамі. Гэта работа была пачата яшчэ ў 1990 годзе. Неабходна мець на ўвазе, што ў агульным аб'ёме ўвозімай у рэспубліку прадукцыі па міжрэспубліканскаму абмену на долю РСФСР прыпадаюць 64 працэнты, Украіны — 19. На ўсе астатнія адпаведна — 17 працэнтаў.

З РСФСР мы атрымліваем поўнасцю нафту і прыродны газ, 60 працэнтаў каменнага вугалю, 55 — пракату чорных і вялікую колькасць каляровых металаў, стальныя трубы, дзелавую драўніну, хімічную прадукцыю, сыравіну для хімічнай прамысловасці і іншых галін, машыны і абсталяванне, цэмент, рыбу, іншыя тавары народнага спажывання і прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння. У РСФСР з Беларусі адпраўляюцца машыны і абсталяванне, кабельная прадукцыя, шыны, хімічныя валокны і ніткі, мінеральныя ўгнаенні і хімічная прадукцыя, мясныя і малочныя прадукты, бульба, тавары народнага спажывання. Названыя рэсурсы, акрамя харчовых, пастаўляюцца і ва ўсе іншыя рэспублікі.

З Украіны паступаюць чорныя і каляровыя металы, стальныя трубы, каменны вугаль, цэмент, хімічная прадукцыя, машыны і абсталяванне, алей, цукар, з Узбекістана і Туркменіі — бавоўна, алей, сыравінныя рэсурсы, з Казахстана — збожжа, каляровыя металы, з Рэспублікі Малдова — цэмент, алей, пладоваагародніннная прадукцыя, вінаматэрыялы і тытунёвая сыравіна, з Рэспублікі Кыргызстан — каляровыя металы, воўна, пража, тканіна, вінаматэрыялы, агародніна, цыбуля, часнок, тытунёвая сыравіна, з Азербайджана — каляровыя металы, пладоваагародніннная прадукцыя, вінаматэрыялы, тытунёвая сыравіна і г. д.

У бягучым годзе вялася карпатлівая работа з адпаведнымі органамі РСФСР і іншых рэспублік па ўзгадненню аб'ёмаў узаемных паставак. Аб'ёмы паступленняў рэсурсаў з РСФСР па канкрэтных іх відах для ўсіх прадпрыемстваў і арганізацый Беларусі ў цэлым складаюць на 1992 год 70—90 працэнтаў да ўзроўню 1990 года.

Дасягнута дамоўленасць у Міністэрстве эканомікі і фінансаў РСФСР аб тым, што звыш узгодненых квот будуць выдавацца ліцэнзіі на вываз прадукцыі з РСФСР па тавараабмену на ўзаемавыгадных умовах. На ўзроўні ўрадаў будзе кантралявацца толькі каля 130 назваў важнейшых відаў рэсурсаў. Пагадненнямі з РСФСР і іншымі рэспублікамі прадугледжваецца захаванне існуючых паставак па ўсіх відах рэсурсаў у адпаведнасці з аб'ёмамі іх вытворчасці ў 1992 годзе.

Калі ацэньваць пастаўкі прадукцыі ў бягучым годзе ў дзеючых цэнах, то практычна з усімі рэспублікамі, уключаючы і РСФСР, мы маем станоўчы баланс, а з Украінай аб'ёмы прыкладна збалансаваны. У ходзе работы з рэспублікамі прымаюцца меры па выраўноўванню ўзаемных паставак. Разам з тым, папярэднія разлікі паказваюць, што ў сусветных цэнах намячаемыя на 1992 год аб'ёмы паступленняў прадукцыі і тавараў з РСФСР у Беларусь перавышаюць наш сустрэчны вываз. Гэта выклікана высокім узроўнем сусветных цэн на сыравінныя рэсурсы і нізкімі цэнамі на тавары народнага спажывання.

На сённяшні дзень падпісаны Дагавор аб прынцыпах эканамічнага супрацоўніцтва паміж прадпрыемствамі і арганізацыямі Рэспублікі Беларусь і Украіны, адпаведныя пагадненні з Узбекістанам, Малдовай, Кыргызстанам, Азербайджанам, Казахстанам, Таджыкістанам. З Туркменіяй гэта работа завяршаецца. Засталіся Літоўская і Латвійская Рэспублікі, з якімі вядзецца неабходная падрыхтоўчая работа, а таксама Арменія, Грузія і Эстонія.

У цэлым па рэспубліцы рэсурсы на 1992 год складваюцца ў наступных аб'ёмах: нафты паступіць 30 млн. тон (у тым ліку па дзяржзаказу 25) супраць прынятых да пастаўкі ў 1991 годзе 38,5 млн. тон, прыроднага газу — адпаведна 16,4 і 15,8 млрд. куб. метраў, звадкаванага — 403 і 394 тыс. тон, пракату чорных металаў—2.245 і 2.879 тыс. тон, цэменту — 3.327 і 3.458 тыс. тон, труб стальных — 329 і 418 тыс. тон, дзелавой драўніны па завозу 2.150 і 2.125 тыс. куб. метраў, кальцыніраванай соды 88 і 75,4 тыс. тон.

Урад Рэспублікі Беларусь прыняў пастанову, якой зацверджаны парадак арганізацыі матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння народнай гаспадаркі на 1992 год. Узгодненыя аб'ёмы ўзаемных паставак прадукцыі (квоты) паведамляліся рэспубліканскім міністэрствам для давядзення адпаведных квот спажыўцам і заключэння дагавораў. Прычым квоты па дзяржаўнаму заказу павінны прымацца прадпрыемствамі іншых рэспублік без запатрабавання сустрэчных паставак.

Неабходна заўважыць: не ўсё так проста ў гэтай справе. На многіх прадпрыемствах пакуль што няма яснасці з забеспячэннем сыравіннымі і іншымі рэсурсамі, камплектуючымі вырабамі. Але, думаецца, добра наладжаныя эканамічныя ўзаемаадносіны з РСФСР, Украінай і іншымі рэспублікамі дадуць магчымасць вырашыць пытанні матэрыяльна-тэхнічнага забеспячэння, стануць асновай для работы прадпрыемстваў і арганізацый.

**А. САЛОДКІН,**
**начальнік упраўлення рэгіянальных сувязей і матэрыяльных рэсурсаў апарату ўрада Рэспублікі Беларусь.**

